# НАВІНКІ

Серада, 25 лістапада 1998 № 7 Кошт свабодны











# МІНІ-НАВІНКІ

## Форумныя жарсьці

Калі напрыканцы верасьня актывісты «Лігі Сэксуальных Меншасьцяў» вырашылі друкаваць сваю газэту «Форум», яны нават падазраваць не маглі, які гэта выкліча скандал у беларускім палітычным асяродзьдзі. Справа ў тым, што народныя масы, ня вельмі арыентуючыся ў тонкіх палітычных нюансах і адразу сталі путаць шалуноў ЛСМ з маладымі лібэраламі з «Грамадзянскага Форуму». Лібэралы сталі разьбіраць газэту «Форум», а сэксуальны андэграўнд пачаў пэрыядычна зьнімаць актывістаў на вулічных акцыяў апазыцыі. Уяўляеце, стаіць пікет з плякатамі «Лукашэнку ў ж...», і раптам да яго ўдзельнікаў пачынае клеіцца дзяціна з фарбаванымі вусамі і, строячы вочкі, гаворыць: «Лукашенко, какой он противный, фу! А я, дарэчы, нічым ня горшы!» Афігеўшыя пікетчыкі пачынаюць удакладняць мэтафарычнасьць фразы «в ж...», але «кліент» прымае гэта за сэксуальную прэлюдыю і запрашае хлопчыкаў-дэмакратаў на «палітычную дыскусію» ў больш утульнае месца. Скончылася тым, што ўдзельнікі пікетаў сталі баяцца разыходзіцца паасобку, аргумэнтуючы гэта для выгляду тым, што палітычная «ахранка» ня сьпіць. Нэгатыўныя вынікі публікацыя «Форуму» мела і для простых менскіх ґеяў. Пабачыўшы дзе-небудзь у руках газэту «Форум», міліцыя рэагавала амаль аўтаматычна - «Нацыяналісты праклятыя!» Наступствы няцяжка ўявіць: чытачоў «Форуму» вінцілі, мясілі, потчывалі дубіналам... Добра было толькі ґеям-мазахістам, якія ў экстазе падалі на асфальт і «канчалі» на вачах уражаных міліцыянтаў: «Яшчэ, яшчэ, так, так!.. Я апазыцыянэр! Няхай жыве дэмакратыя!»

**Конкурс: Прадстаўнікі якога «Форуму» выяўленыя на гэтым фота?**



## Свабоду Аўгусту Пінáчэту?



Дэбіл-сэк'юрыці з амбасады Яе Вялікасьці ня церпіць і не разумее гэтых людзей. Для яго дзіўна, як можна штодня, ня гледзячы на стан надвор'я, прыходзіць сюды, да будынку амбасады Злучанага Каралеўства на вул. Карла Маркса, каб бясконца клапаціцца аб лёсе шэраговага ангельскага палітзэка - Аўгуста Пінáчэта.

Недаступна яму, падобнаму да горкаўскага тоўстага пінгвіна, што гаворка ідзе пра элемэнтарныя правы чалавека, паважаць якія трэба нават у Злучаным Каралеўстве Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірляндыі - краіне, дзе няма дэмакратычнай канстытуцыі і пануе каралеўскае свавольства.

**«Не ачарніць дзейнасьць вялікага праваабаронца» - лічыць І.Панядзелкін**

Што да кампаніі, пра якую мы ўзгадалі, яна разгорнутая на ініцыятыву купкі энтузіястаў зь беларускай газэты «Volkische Wille».

«Мы і раней цудоўна ведалі, што ў Англіі з правамі чалавека адбываецца хрэн ведае што», - распавядае рэдактар выданьня Іосіф Панядзелкін. - «Прыгадаем, прыкладам, сьмерць вядомай праваабаронцы Даяны Віндзорка, старшыні Букінгемскага Хельсінскага Камітэту (БХК), год таму або канцлягер для ангельскіх апазыцыянэраў, пад які дыктатура Віндзораў прыстасавала стадыён «Уэмблі». Але ж апошнія закідоны ўладаў Туманнага Альбіёну ў дачыненьні вядомага чылійскага праваабаронца Аўгуста Пінáчэта - гэта, прабачце, нейкі брутал». Тут са словамі І.Панядзелкіна нельга не пагадзіцца.

15 кастрычніка ў аэрапорце Хітроў ангельскія «бобі», быццам вывадак баскервільскіх артамонаў, павінцілі грамадзкага дзеяча з далёкай Чылі, інкрымінуючы яму нейкія забойствы. Відавочна, што людзі з Скотлэнд Ярду, у якіх яшчэ з часоў Шэрлака Холмса бракуе розуму, проста вырашылі павесіць на некага нераскрытыя мокрыя справы за апошнія 25 гадоў. А тут пад руку падвярнуўся такі шанец! Усяго такіх незачыненых справаў з 1972 -га году назьбіралася больш за 3000, і за ўсё гэта, адпаведна капрызам крыважэрнай Элізабэт II, будзе цягнуць хамут бедны пачценны старац Аўгуста. Невядома, колькі турэмных тэрмінаў яму б прыкадохала брытанская тройка прысяжных, калі б не сусьветная ( і ў прыватнасьці - беларуская) грамадзкасьць. Дарэчы, пікеты на К.Маркса - гэта толькі частка агульнанацыянальнай кампаніі салідарнасьці з ангельскім вязьнем сумленьня. Зараз, са словаў І.Панядзелкіна, калектыў рэдакцыі зьвярнуўся да Прэзыдэнта з прапановай арыштаваць парутройку актывістаў БСДП-«НГ» (хаўрусьнікі правячых у Ангельшчыне лейбарыстаў) і абмяняць іх на А.Пінáчэта. Што ж, прапанова сапраўды вартая ўвагі.

## Крутое порна мовай Куляшова і Шамякіна

Сапраўднай падзеяй для ўсіх аматараў нестандартнага падыходу ў сэксе стаў выхад у сьвет першага нумару культурніцка-парнаграфічнага часопісу «Архе». Матэрыялы, зьмешчаныя на старонках гэтага выданьня, дазваляюць зірнуць на рэчаіснасьць глыбей і шырэй, а тая сьмеласьць, зь якой падаюцца некаторыя найбольш «адкравенныя» клубнічныя матэрыялы, дазваляе нават паставіць яго на адну дошку з часопісамі «Полымя», «Маладосць» і «Нёман» - флагманамі беларускага порнадруку.

Напісаны зразумелай народу «наркамаўкай» на зразумелыя народу тэмы, часопіс «Архе» ўжо знайшоў свайго чытача ў самых шырокіх слаях беларускага грамадзтва. Гэтак, рабочы 3-га разраду шарыкападшыпнікавага заводу В. Шаркоўскі кажа: «Я ўпітаў эты язык з малаком мацеры. І сколькі сябе помню, яна ніколі не гаварыла з мяккімі знакамі». Як адзначае іншы чытач «Архе», аўтазаводзец А. Курлевіч: «У этым журнале я нашоў сцэны з майго дзецтва, калі бацька, прыйшоўшы

п'яным з другой змены, любуйся з маткай у прыхожай. «Архе» - эта народны Плэйбой, только лучшы.» Цьвіком нумару, безумоўна, зьяўляецца артыкул Паўла Севярынца «Валадарская балада», які забясьпечвае ашаламляльны попыт «Архе». Ну падумайце, што мог падумаць чытач пра зьмест артыкулу аб побыце Паўла ў турме, які надрукаваны ў порначасопісе? Але тут і чакае чытача вялікі аблом: аніякага сюжэту аднаполага каханьня, аніякіх сцэнаў мужалоства там няма й блізка! Але набытыя асобнікі «Архе» вяртаньню не падлягаюць.

## Усё болей порнавыданьняў зьяўляецца на паліцах кнігарняў




Часопіс «Архе» можна набыць у беларускіх кнігарнях, шапіках, фондзе «Наша Ніва», а таксама замовіць у рэдакцыі поштай (180.000 + кошт перасылкі, Менск, 220018, а/с 3) У камплекце з часопісам можна замовіць набор гральных порнакартаў, відэакасэту з экранізацыяй самых крутых сцэнаў, а таксама саўнд-трэк з крыкамі й стогнамі пэрсанажаў.

## Псэўда-Народная Воля

Калі задацца пытаньнем, у чым заключаецца сёньня стратэгія дэмакратычных сілаў, ня цяжка зразумець: галоўная мэта – справакаваць народ на сацыяльны бунт. А што ж можа выклікаць такі бунт, як не падвышэньне коштаў на самае дарагое народу, нацыянальны напітак №1 – гарэлку?

У кулюарах былога Вярхоўнага Савету быў распрацаваны хітры цынічны плян «Цьвярозасьць». З мэтай яго ажыцьцяўленьня ў апазыцыйнай прэсе на працягу апошніх двух месяцаў разгарнулася агалцелая кампанія па «прапагандзе» здаровага вобразу жыцьця, якая на самой справе мела мэтай вымусіць улады да такога непапулярнага кроку, як падняцьце цэнаў на вінагарэлачную прадукцыю.

«Каравул!» - крычалі перадавіцы дэмакратычных газэт, апэлююччы да гістарычнай памяці народу - «Кілбаса сёньня даражэй за гарэлку!».

І правакацыя ўдалася. Нехта з высокапастаўленых чыноўнікаў усё ж клюнуў на закінутую нажыўку і пайшоў на перавышэньне сваіх паўнамоцтваў.

У выніку - за адну ноч кошты на гарэлку вырасьлі ў два разы.

Падвышэньне больш за ўсё ўдарыла па самых сацыяльна неабароненых слаях грамадзтва: бамжах і студэнтах.

Усё ж пралічыліся тыя, хто, папіваючы дарагое «марціні», хацеў прыйсьці да ўлады на хвалі народнага гневу. Прэзыдэнт абяцаў разабрацца, хто, як і чаму падняў кошты. І мы спадзяемся, што караючая рука правасудзьдзя падзе на сапраўдных віноўнікаў беспрэцэдэнтнага злачынства супраць беларускага народу.

№ 198 (550)

**Народная Воля**

Памятаюцца недалёкія часы, калі бутэлька гарэлкі каштавала 3 рублі 60 капеек, а кіло нармальнай каўбасы ("Доктарскай", "Сталовай", "Эстонскай"...) можна было купіць за 2 рублі 20 капеек. А "Закусачная" наогул каштавала 1 рубель.
Сёння пляшка гарэлкі ў 2—3 разы танней за кілаграм самай звычайнай каўбасы.
З-за "кусачых" цэн многія забываюць смак бутэрбродаў.
Палітыка сённяшняй улады — палітыка спойвання народа?
КАРАВУЛ!!!

Тыповы абразчык грубай і цынічнай правакацыі супраць народу.

## Вычварэнцы не прайшлі!

Ні для кога не сакрэт, што апазыцыйная прэса, імкнучыся забясьпечыць рэалізацыю сваёй бульварнай прадукцыі, прыбягае да розных нізкапробных мэтадаў. Маральнае аблічча некаторых «журналістаў» пакідае сумневы наконт іхнай прафэсійнай, маральнай і псыхічнай паўна-вартасьці.

Яскравым прыкладам зьяўляецца газэта «Имя», вядомая сваёй амаральнасьцю й беспрынцыповасьцю. Адэпты залатога цяльца ў пагоні за чытачом (дакладней, ягоным кашальком) ня грэбуюць нічым.

Сам лісток уяўляе сабой брудную сумесь паклёпаў, безгустоўнай рэклямы й праграмы тэлебачаньня. П'янствуючы на грошы багатых рэклямадаўцаў, рэдакцыя на чале з Ірынай Халіп паступова забываецца на маральныя нормы й дэманстратыўна грэбуе традыцыйнымі каштоўнасьцямі.

Апошнім праэктам, што ўзьнік у нецьверазых мазгах рэдкалегіі, была відавочная правакацыя, скіраваная супраць самых устояў грамадзтва. На апошняй паласе чарговага нумару красаваўся плякат, што ўяўляе сабой тыповы ўзор прадукцыі для сэксуальных вычварэнцаў.

Але правакацыя не прайшла! Не прайшла дзякуючы пільнасьці шэраговых супрацоўнікаў прыватнай друкарні «Мэджык». Уявіўшы, як іхныя дзеці, прыйшоўшы набываць часопіс «Пралеска», убачаць у шапіку ГЭТА, нармальныя й здаровыя мужыкі не на жарт абурыліся. Прадстаўнік газэты «Имя», які прывез гранкі ў тыпаграфію, быў жорстка зьбіты, а кіраўніцтва «Мэджыку» прымусілі адмовіцца ад друку 8-ай паласы. Мэджыкаўская прыбіральшчыца цёця Дуня расказвала потым сваім суседкам пра інцыдэнт на працы: «Падымаю з падлогі нейкую паперчыну, гляджу, а там – голы мужык! Гэта ж трэба, такое бл...ва – ды ў сур'ёзнай газэце?!».

Спроба порнакратаў выплеснуць бруд на нашых жонак і дзяцей наткнулася на непрабіўную сьцяну сьвядомых грамадзянаў. У выніку «Имя» выйшла ўвогуле з пустой апошняй паласой.




Так мусіла выглядаць апошняя паласа 46-га нумару газэты «Имя» (друкуем з улікам патрабаваньняў нашай тыпаграфіі).



# Гавары Мойшква!

## Разгаварывай Расея!..

**Ад Курылаў да Палабаў усё прагрэсіўнае славянскае чалавецтва толькі тое й робіць, што скланяе імя мужнага генэрала Макашова, які першым адважыўся сказаць праўду аб сучаснай сытуацыі ў Расеі. Сэнс ягоных словаў «Расея прададзеная жыдам!» траурным рэхам адгукнуўся ў самых інтымных кутках кожнай загадкавай славянскай душы. Аб таргах Расеяй, аб буднях невыноснай юдзейскай акупацыі, аб злавесных плянах сіёнскіх мудрацоў чытайце ў спэцыяльным рэпартажы карэспандэнта «Навінак» з Масквы.**

## У дарозе

Яшчэ ў цягніку «Менск - Масква» я зразумеў, што буду шкадаваць аб гэтым ваяжу. Як толькі вагон кранууўся, пакінуўшы ззаду вакзальны пэрон беларускай сталіцы, над вухам раздаўся жалезны тон праваднiцы: «Хто будзе браць бялізну? Кошт - сто тысячаў беларускіх зайчыкаў або 10 расейскіх шэкеляў». Гэтая, на першы погляд банальная, фраза аказала на мяне эфэкт добрага трылеру: кандрашка ад нарастаючай прысутнасьці нечага брутальнага і жудаснага літаральна апаноўвала мяне з кожнай гадзінай. Мой спадарожнік, Іван Пятроў - чалавек славянскай наружнасьці, ветлівы і акуратны - таксама вельмі нэрваваўся.

«Кантрабанду вязу,» - прызнаўся ён па сакрэту.

На мытні зайшлі расейскія пагранцы - два хазары, якія са словамі «Зброя, наркотыкі, сьвініна ёсьць?» дзелавіта пачалі трэсьці клункі пасажыраў. Сабака, навуськаны на пах сьвініны, ашчэрыўся на майго спадарожніка, якога тут жа, падштурхоўваючы ў сьпіну прыкладамі аўтаматаў «УЗІ», ссадзілі зь цягніка (аказалася, што ён вёз шматок сала сваім сваякам). Візу ў маім беларускім пашпарце разглядалі доўга. «Зь якой мэтай едзеце ў Мойшкву?» Я ткнуў пад нос пагранцам запрашэньне ад Маскоўскага экзархату Беларускай Праваслаўнай Царквы. «А што, у нас яшчэ ёсьць такая царква?» - шчыра зьдзівіліся тыя, але ўсё ж адчапіліся. - «Спасу няма ад гэтых заходніх місіянэраў! Куды глядзіць Сынэдрыён па справах рэлігійных меншасьцяў?..»

## Спадарожнік

У Шмаленску ў цягнік падсела першая партыя тутэйшых. Большасьць пасажыраў - простыя кібуцнікі - мелі яўна акрэсьленыя сэміцкія рысы твару. Мой новы спадарожнік доўга касіўся на мяне, пакуль, ня вытрымаўшы, не запытаўся: «Скажіце, ві ня рускі?» Атрымаўшы адмоўны адказ, той павесялеў і прадставіўся: «Беня, трактарыст. Працую ў кібуцы імя Троцкага». Слова за слова, і вось Беня гасьцінна дастае бутэльку «Яўрэйскай», каб паразмаўляць па душах.

«Зусім абнаглелі гэтыя кацапы. Да чаго краіну давялі! - абураецца Беня, наліваючы шклянку да краёў. - А ві ведаеце, жонката ў Беразоўскага - руская!» Далей я даведаўся, што экстрэмісты з «Арганізацыі Вызваленьня Маскоўшчыны» на чале зь Ясірам Макашовым днямі абстралялі яўрэйскія пасяленьні на Заходнім беразе ракі Волга, а ў Сэктары Нафты зноў уведзенае надзвычайнае становішча. «А ві ведаеце апошні анэкдот пра маскалёў? Не?! Ну дык я зараз вам яго раскажу!» - Беня куляе яшчэ чарку, занюхвае мацой і пачынае: «Дык вось. Памірае стары Іваноў...» Сьмяемся. Выпілі яшчэ па чарцы.

Ня ведаю чаму, можа з-за духаты ў купэ, але мой спадарожнік стаў зноў на мяне зло пазіраць. «А можа ты ўсё ж кацапчык?» - захмялеўшы Беня насунуўся на мяне й нечакана даў разы два па твары. «Да-а, вось яна - загадкавая яўрэйская душа...» - падумаў я, губляючы прытомнасьць.

## На Бабруйскім вакзале

Сталіца Расеі сустрэла мяне пахмурным лістападаўскім ранкам. Прама на Бабруйскім вакзале красаваўся транспарант, напісаны на русішы (адной з трох яўрэйскіх моваў): «Не поверите! Мойшква!». Праз галосьнікі на ўвесь вакзал разносіцца голас дыктара з характэрным пранонсам: «Внимание! Слушайте сюда. Всем лицам славянской национальности необходимо зарегистрироваться в течение 24 часов!»

Народу вакол - прорва. Большасьць - яўрэі-рэпатрыянты з Амэрыкі й Ізраілю, якія вяртаюцца на сваю гістарычную радзіму. Тут жа яны атрымліваюць 3000 расейскіх шэкеляў і разьмеркаваньне на пасяленьне ў Бірабіджан. Духавы аркестар грае марш «Вяртаньне самарыцянкі».

Прабіраючыся праз натоўп, я сутыкнуўся сам-насам з трыма асілкамі з пэйсамі і стылізаванымі зоркамі Давіда на рукавах. «Ша, антыжыдоўская морда! Ану тармазі!» Гэта былі прадстаўнікі «Яўрэйскага Нацыянальнага Адзінства» - экстрэмісцкай сіяніскай арганізацыі, якая наводзіць жах на мірных славянаў, якія прыяжджаюць у сталіцу з Разані, каб нешта зарабіць на продажы матрёшак ці іконаў. Мойшкваўскі мэр Люшман заплюшчвае вочы на гвалт сэміцкіх малойчыкаў, і нават сам час ад часу праводзіць на рынках масавыя славянскія зачысткі.

«Што, кацап пархаты, зноў какошнікамі гандляваць прыехаў?! - сіяніст схапіў мяне за грудкі. - Нябось да нашых дзяўчынак клеісься?»

«Да вы што, рабяты, - спрабаваў быў адкруціцца я. - Свой я, свой! Я Мойша Мандэльштамбдт з Тулы-Авіва.»

«Ха! А я, напэўне, цёця Фіма з Хайфараўску. А ну здымай штаны, паглядзім, які ты Мандэльштамбдт!»

Трэба сказаць, што аддзелаўся я досыць лёгка - мяне павалілі мордай у сьнег і трохі «паабразалі» нагамі.

## «Мойшква - Третий Иерусалим, а четвертому не бывать»

«Утро красит нежным цветом...», - матыў гэтай старой добрай песьні, адразу прыйшоў на сэрца, калі я ступіў на брук Краснай плошчы. Усё тут проста дыхае сівой гісторыяй. Сынагога Абрама блажэннага, маўзалей Ульянава-Бланка, Крамлёўская сьцяна сьмеху, зоркі Давіда на Спаскай вежы...

Зачаравана праходжу міма Крамля, дзе працуе Прэзыдэнт Ельцындт, і выходжу на Манежную.

Каля Гістарычнага Музэю стаяць латкі зь сіяністкай і антыславянскай прэсай «Иудейский порядок», «Сионистский набат», «Завтра придет Мойшеах». Шмат брашурак кшталту «Берасьцяныя граматы славянскіх волхваў», «Шчупальцы руса-масонскай змовы»... З дынамікаў гучыць хрыплы вакал Абраменкі з гурта «Голубые звезды Давида» ці Яговы Летава: «А при сионизме все будет зае..сь!..». Тут сапраўдны Гайд-Парк, дзе штодня гудзяць спрэчкі на актуальныя палітычныя тэмы: «Да ви посмотрите, кто делал эту революцию! Ви думаете, ее делали евреи? Так нет! Ульянов, Свердлов, Зиновьев, Троцкий... Ни одной еврейской фамилии!»; «Я на все сто процентов уверен, что Ельциндт - русский!»; «Вы знаете, что на телевидении работает около 60% лиц славянской национальности?»; «Ви не слышали, что продали Израиль? Так вот да! Взялись за Россию-Матушку!» Натоўп вохаў, хваляваўся: «Москали! Кацапы!». Пахла чарговым рускім пагромам. Народ стаў азірацца навокал, вачыма вышукваючы якую-небудзь белакурую славянскую бэстыю. Паправіўшы на грудзях значак «истинно израильский человек», я пасьпяшаўся сысьці, хаваючы свой курносы нос у падняты каўнер.



Мільёны прававерных з усіх куткоў сьвету прыяжджаюць да Маўзалею Ульянава-Бланка, правадыра юда-бальшавіцкай рэвалюцыі

## Павевы крызысу

Мой побыт у Мойшкве супаў з чарговым палітычным скандалам, які разразіўся ў мясцовым парлямэнце - Дзяржаўным Кнэсэце. Дэпутат ад юда-камуністаў Альбэрт Га-Макашэвіч неаднаразова абазваў расейцаў кацапамі, якія на сваю праваслаўную Пасху робяць кулічы з крывёю яўрэйскіх дзяцей. Ягоную пазыцыю горача падтрымала Партыя лібэральных юрыстаў і блёк «Наш дом - Зямля Абетаваная». Але прадстаўнікі ад «Адамава Яблыка» ўчынілі бойку зь імі прама ў залі паседжаньняў. Асабліва махаўся папулярны саддукей Яблінскі, цёгаючы за пэйсы Жору Нойскага і лямантуючы на ўсю залю паседжаньняў: «Фарысэі! Дагматыкі! Талмудысты!»

Увечары на канале Кагальнага Яўрэйскага Тэлебачаньня ў праграме «Алеф-бэт-гімэлэйка» лідэр Юда-Камуністычнай партыі Ізя Ганаў прызнаўся, што Га-Макашэвіч троху перабольшыў: кулічы зь яўрэйскай крывёй рускія робяць не на Пасху, а на Каляды. На гэтым скандал быў вычарпаны.

Але Га-Макашэвіч быў непахісны: «Калі я вучыўся ў школе, у маёй клясе быў адзін кацапчык-зубрыла. Мы яму ўвесь час рабілі «цёмную», бо ён ніколі не дзяліўся бутэрбродамі з кілбасой, якую яму дасылалі сваякі зь вёскі»...

## Славянскі супраціў

У суботу ў Мойшкве камэнданцкі дзень. Увесь горад нібы вымірае. Трэба мець сапраўдную мужнасьць, каб высунуцца за дзьверы й ня быць схопленым чарговым нарадам дружыньнікаў-хасыдаў. Але я маю вельмі важкія падставы для рызыкі: выпала ўнікальная магчымасьць сустрэцца з прадстаўнікамі славянскай меншасьці, чый цэнтар знаходзіцца недзе ў бездані спальных кварталаў, як кажуць карэнныя майшквічы - «в ебенях» ( з русіша - «у геене вогненнай»). Электрычка мэтро выплёўвае мяне на пустынную плятформу станцыі «Тэль-Авіўская», адкуль прыходзіцца яшчэ хвілінаў 40 мясіць бруд, перш чым я дабяруся да ўмоўленага месца. Гэта звычайны студэнцкі інтэрнат Унівэрсытэту дружбы народаў імя Бэна Гурыёна, дзе жывуць замежныя студэнты - абісінцы, нігеры і, безумоўна, расейцы. Канспіратыўны пакойчык уяўляе сабой звычайную затраханую прусакамі і клапамі студэнцкую «трёшку». На сьценах вісіць плякат - «Свабоду Уральскім Высотам!»

Проста пад ім анахарэціўся нейкі тып з пафарбаванымі ў чорны і завітымі пад барашка валасамі. Толькі праз колькі хвілінаў я пазнаў у ім вядомага лідэра славянскага супраціву - Ясіра Макашова. «Не пазналі? - давольна ўсьміхнуўся ён, - канспірацыя!». Потым, ён шырака, па-славянску, пасадзіў мяне за стол, і мы расьпілі «караблік» гарбаты.

«Сытуацыя цяжкая, - пачаў сваю думку Ясір. - Улады ня хочуць выконваць нашае галоўнае патрабаваньне: прадставіць для рускіх нацыянальна-культурную аўтаномію. Ну нічога, яны пра гэта пашкадуюць.» У вачах Макашова бліснула спрадвечная славянская хітрынка. «Слава Богу, у нас ёсьць людзі на тэлебачаньні. Зараз мы актыўна разлагаем прававерных юдзеяў патокам сэксу, гвалту і праваслаўных пропаведзяў, якімі кішаць амэрыканскія фільмы». І сапраўды, рускія здолелі так глыбака энтрыявацца ў мясцовыя мас-мэдыя, што Расея на экране тэлевізараў і ў газэтах становіцца больш падобнай да славянскай краіны. Я на ўласныя вочы бачыў у передачы «Спокойной ночи, малыши!», каго б вы думалі? Хрюшу! А што можа сказаць яўрэйскім хлопчыкам і дзяўчынкам кашэрнае рускае парася Хрюша?

## Вяртаньне

Мойшкву я пакідаў са зьмяшанымі пачуцьцямі. Што чакае Расею й яе шматпакутны народ?

Мае нярадасныя думкі перарваў мой новы сусед па купэ, які сеў у Воршы. Ён разьвярнуў газэту «Известия» і паглыбіўся ў чытаньне. «Ну! Ня можа быць!» - раптам прамовіў ён, і зьвярнуўся да мяне. - «Вы чулі пра антысэміцкія настрої ў Расеі? Гэта ж яўнае парушэньне правоў чалавека!»

«Хлусьня!» - ня вытрымаў я. - «Ніхто жыдоў у Расеі не прыцясьняе! Яны там як сыр у масьле катаюцца! А вось рускім людзям там сапраўды цяжка...»

«Дык Вы, бацэнька, антысэміт!» - сказаў незнаёмец і заехаў мне ў сківіцу.

«Вось ён, дом родны...» - падумаў я, валячыся на падлогу вагону, які імкліва нес мяне да сталіцы Беларусі...

# Барыс Маісееў: лірыка змаганьня




...Дзьверы мне адчыніў па-вайсковаму падцягнуты дзяцюк, апрануты ў камуфляж з партупэяй і зоркай-зьнічкай на рукаве...

Што ні кажыце, але прайсьці міма магчымасьці ўзяць інтэрвію ў вядомага бісэксуала Барыса Маісеева я як карэспандэнт газэты «Навінкі» ніяк ня мог. І тым больш гэта было б злачынствам пасьля сэрыі інтэрвію ў расейскіх газэтах, дзе Маісееў выступае з эпатажнай заявай, што ставіць крыж на расейскім шоў-бізнэсе й вяртаецца на Радзіму.

Аказія сустрэцца выпала, калі Барыс паводле сваёй старой звычкі прыехаў на навагоднія канікулы дадому, у свой родны горад Магілёў. Загадзя дамовіўшыся аб сустрэчы, я выправіўся да яго на хату.

Ціснучы на дзьвярны званок, я чакаў сустрэць жэнападобнага дзецюка ў панчохах і з намаляванымі вуснамі. Я падмануўся! Дзьверы мне адчыніў па-вайсковаму падцягнуты дзяцюк, апрануты ў камуфляж з партупэяй і зоркай-зьнічкай на рукаве. Валасы яго былі расчасаныя на прабор. Гасьцінна запрасіўшы ўвайсьці, Барыс наліў дзьве поўныя шклянкі гарэлкі «Белая Русь»...

**- Скажы-ка, Барыска, як ты трапіў у расейскі шоў-бізнэс?**

- Неяк аднойчы на вакацыі я паехаў да сваёй цёткі ў Маскву, дзе й адбыўся той ракавы выпадак. Я праходзіў каля Краснапрэсьненскага дому піянэраў. Раптам да мяне падыйшла нейкая расфуфыраная дама й спыталася: «Хлопчык, хочаш пакатацца на машыне?» Я, вядома, згадзіўся, бо ў нас у Магілёве ніхто не катаў мяне на машынах. Гэтак я трапіў у трупу Балету Алы Пугачовай. Я працаваў па 12-14 гадзінаў у суткі, атрымліваючы за сваю працу толькі міску пахлёбкі! Мяне пастаянна лупцавалі, да таго ж я пакутаваў ад бесканечных сэксуальных дамаганьняў Алы Барысаўны, падкай да маладзенькіх правінцыйных хлопчыкаў. Гэта быў кашмар!

**- Нашых чытачоў цікавіць наступнае пытаньне. А як ты стаў гэтым.., бісэксуалам?**

- О, мне пра гэта вельмі балюча ўзадваць. У мяне была вялікая блакітная мара: стаць супэрзоркай. Аднойчы я неасьцярожна расказаў пра сваё сакравеннае Ігару Крутому, вядомаму афэрысту ў расейскім шоў-бізнэсе. Ён сказаў мне: «Хочаш ажыцьцявіць сваю блакітную мару? Трэба стаць бісэксуалам, гэта зараз модна». Я, канечне, за такія словы даў яму пашчэчыну. Але Крутой стаў перасьледаваць мяне, прымушаў пераспаць з жанчынай. Урэшце мне прыйшлося падпісаць ганебны кантракт на 15 гадоў, што я буду корчыць зь сябе бісэксуала, а Круты зробіць зь мяне супэрстар. Так я трапіў у кабалу да расейскіх шоў-варацілаў. На шчасьце, кантракт сканчаецца, і ў сьнежні гэтага году я здолею вярнуцца на Радзіму.

**- Чаму ты вырашыў нарэшце вярнуцца ў Беларусь?**

- Ведаеш, маё сэрца заўсёды было зь сінявокімі беларусамі. Там, на чужыне, я заўсёды сумаваў па родным краі. Баліць душа, што ты сядзіш у гэтай паганай Маскве, а там, на Радзіме, прыціскаецца роднае слова, ідзе генацыд культуры народа. Хацелася хоць нечым дапамагчы Адраджэньню Бацькаўшчыны. Разам зь Міколам Трубачом, які дарэчы з Клімавічаў, мы стварылі Беларускае Нацыянальнае Кабарэ «Блакітная Луна», каб аб'яднаць беларускую нацыянальна арыентаваную дыяспару ў Маскве. Адразу далучыўся да нас магілёвец Сяржук Пенкін, сталы чытач газэты «Гэта мы». І, ведаеш, беларусы да нас пацягнуліся! Наша шоў «Гей, беларусы!» карыстаецца велізарнай папулярнасьцю, і ня толькі сярод нашых землякоў. Сьпісаўшыся зь лідэрамі беларускіх нацыянальна-радыкальных арганізацыяў, я ўсё ж вырашыў, што не магу быць у далечыні ад гэтых сьмелых і мужных людзей. Я вырашыў цьвёрда - маё месца тут, у Беларусі!

«Маё сэрца заўсёды было зь сінявокімі беларусамі» — прызнаецца Барыс

**- Цяжка будзе расставацца з тытулам зоркі расейскай эстрады?**

- Я не зьбіраюся завязваць са сваёй творчай кар'ерай. Наадварот, разам з Трубачом мы запісалі новы альбом «Беларускія маршы і песьні», які мы прысьвяцілі ўсім змагарам за Вольную Бацькаўшчыну. Дарэчы, ён так і завецца «Лірыка Змаганьня». Ведаеш, атрымалася сымпатычна! Парачку, я думаю, уключу ў сваё танц-шоў «Гей, беларусы!»

**- Можа, ты нешта хочаш сказаць нашым чытачам на разьвітаньне?**

- Мужыкі! Будзьце мужыкамі, не забывайцеся на Бацькаўшчыну! Разам мы пераможам. Жыве Беларусь! ●

# на культурн*ым* фронце

## Прарыў

### «Нам няма што дзяліць», упэўнена заявіў Джон Ротэн пад час сваёй сустрэчы з Прэзыдэнтам



**З**начным крокам да паляпшэньня становішча на геапалітычным фронце ва ўмовах міжнароднай блякады стала афіцыйная сустрэча Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь са славутым ангельскім музыкам спадаром Джонам Лайданам, больш вядомага ў пэўных колах як Джоні Ротэн (вакаліст Sex Pistols), быў запрошаны ў нашую краіну ў рамках фэстывалю «Залаты шлягер». У аэрапорце Менск-2 Дж. Ротэна зустракалі Прэзыдэнт, міністар замежных справаў, міністар культуры і іншыя афіцыйныя асобы. Прайшоўшы праз Ганаровую Варту, высокі ангельскі госьць выступіў зь вітальным словам, дзе ў прыватнасьці шчыра пашкадаваў, што ў свой час яму ня выпала служыць у войску. Пасьля сьвяточны картэж накіраваўся ў Магілёў, дзе яго сустракалі тысячы школьнікаў і студэнтаў з плякатамі і транспарантамі «Ротэн - пасол добрай надзеі!», «Далоў фашысцкі рэжым каралевы!». Машыне з ганаровым госьцем фэстывалю прыйшлося прадзірацца праз жывы калідор публікі на тратуарах, якія горача віталі свайго куміра. Пратакольная сустрэча з кіраўніком дзяржавы пачалася з хвіліны маўчаньня, якой прысутныя памянулі памяць басіста Sex Pistols Сіда Вішэза. Як адзначыў у сваёй прамове Прэзыдэнт, ад самага пачатку сваёй музычнай кар'еры ў гурце Sex Pistols, Джон Лайдан адлюстроўваў інтарэсы і жаданьні простага ангельскага народу, прыслухоўваючыся да ягонага голасу і чула рэагуючы на праблемы маладога пакаленьня, звычайных людзей. «На працягу ўсёй сваёй дзейнасьці ў складзе гурта Sex Pistols Джон Лайдан прапаведаваў ідэі дабра, справядлівасьці, зьяўляючыся насамрэч сапраўды народным песьняром Вялікабрытаніі.» - гаворыцца ў афіцыйнай заяве. Сустрэча прайшла надзвычай плённа ў цёплай і дабразычлівай атмасфэры. Лайдан неаднаразова пахлопваў Прэзыдэнта па плячы, у прыватнасьці падкрэсьліваючы: «Fuck off establishment, you're must to say it to all of these fuckin' pigs». Па выніках сустрэчы было падпісана камюніке аб намерах, што дазволіць абодвум бакам разьвіваць добрыя дачыненьні і будзе садзейнічаць выхаду беларускіх эстрадных выканаўцаў на ангельскі рынак. Гэтак, ужо ўвосені 1999 у Шэфілдзе на агульнакаралеўскім фэстывалі «Golden Hit» чакаецца цэлы дэсант зорак зь Беларусі, сярод іх Саладуха, Паплаўская, «Харошкі», «Сябры». Шчыра спадзяемся, што гэтыя сувязі будуць крэпнуць і шырыцца. Пад час гала-канцэрту прагрэсіўны агельскі сьпявак заняў самую крытычную пазыцыю адносна сёньняшняй пазыцыі братанскага ўраду ў дачыненьні да Беларусі. Джэсіцы Пірс і ўсім астатнім гаўнюкам з брытанскага ўраду, што наяжджаюць на Беларусь, месца на парашы, лічыць Джон Лайдан. Зноў актуальна як калісьці прагучаў ягоны хіт 70-ых гадоў «God save the Queen. A fascist regime», што разам з выканаўцам сьпявала й плакала ўся заля. Як знак павагі да ўсяго агельскага працоўнага народу, беларускі бок перадаў калектыву Sex Pistols памятны сувенір аб Беларусі - бутэльку пладова-ягаднага напою «Вішнёвы водар». Падобна на тое, што гэтая сустрэча неўзабаве займее свой працяг. Гэтак, было дамоўлена, што легендарны гурт Sex Pistols ізноў зьбярэцца, каб паўдзельнічаць у фэстывалі «Славянскі базар» ●

# Людзі на балоце

Зараз ужо ні Віктар, ні Мірон ня памятаюць, каму зь іх першаму прыйшла ў галаву бліскучая ідэя ўзяць цёлак, пару пузыроў і махнуць на выходныя куды-небудзь на Прыпяць. Рэцыдывы з памяцьцю ў хлопцаў ня цяжка зразумець. Ня дай бог вам перажыць такое! Замест рамантычнага ўікэнду ў глыбі Палесься Мірона й Віктара чакала рандэву з жахлівымі пэрсанажамі мінулага.

З самага пачатку было відавочна, што прагулка абламалася. Баб не зьнялі, надвор'е спорцілася, а човен, на якім хлопцы адправіліся ў заплыў па Прыпяці, даў цеч, так што прыйшлося хутка дэсантавацца на бліжэйшы бераг. Там, паабсохнуўшы і памацюкаўшыся, выврашылі ісьці ў бліжэйшую вёску па дапамогу, тым больш, што згодна карце недалёка знаходзіўся саўгас «Заветы Ільіча» і вёска Малыя Заскокі. Сапраўды, праз 20 хвілінаў пешага ходу сасновы бор абарваўся на вясковай ваколіцы. Хлопцы павесялелі і бодра накіраваліся ў цэнтар шукаць мясцовую краму. Тое, што яны там пабачылі, адразу вырубіла іх са сьвядомасьці. Над будынкам мясцовай адміністрацыі лунаў бел-чырвона-белы сьцяг (!), а побач на слупе качаўся труп нейкага мужыка. На шыльдачцы, прывязанай да шыі нябожчыка, значылася чорным па беламу «Камуняка». Хлапчукі ў міг працьверазелі й кінуліся наўцёкі, пакуль не ачухаліся недзе мэтраў за трыста-пяцьсот. «Аднак, усё ж добра «Клімавіцкая» ўставіла,» - паспрабаваў асэнсаваць пабачанае Віктар. «Ну,» - ахвотна падтрымаў сябра Мірон, - «гэта ж трэба напіцца да бел-чырвона-белых сьцягоў. Як нам яшчэ Пазьняк з касой не памярэшчыўся!». Задаволеныя такім тлумачэньнем, «турысты» адразу павесялелі й вырашылі, што лепшы спосаб зьняць стрэс - дагнацца самагонкай, якую на сяле ня гоніць толькі хворы. Бабка з бліжэйшай хаты да гэтай катэгорыі яўна не належала. . «З вас, молодi люды, тры тысячы,» - раздаўся адкульсьці з падвалу яе ўтробны голас, а потым і сама старая карга зьявілася на версе зь літровай банкай адборнага першачу. Ад такіх сьмешных коштаў на сівуху хацелася жыць. Хлопцы хуценька разьлічыліся з ратаўніцай трыма купюрамі па тысячы і пабеглі за сарай. Але дзень быў сапраўды закляты. Не пасьпелі хлапцы прыкласьціся да самагонкі, як аднекуль выскачылі байструкі зь бел-чырвона-белымі павязкамі і прыняліся заломваць хлапчукам рукі. Потым нашых герояў упіхнулі ў нейкую хату ....

***

*Гісторыя пачалася на пачатку вясны 1995, калі радыёактыўныя дажджы і павадак ушчэнт размылі апошнюю каліяну, што зьвязвала маленькую непрыкметную вёсачку Малыя Заскокі з райцэнтрам. Але да такіх залётаў прыроды абарыгены даўно прызвычаіліся. Ім было не прывыкаць жыць па некалькі месяцаў у ізаляцыі ад Вялікай Зямлі, спадзеючыся на багацьце Прыпяці і хатнія запасы. Таму ніякіх трывог такая «рабінзаніяда» ня выклікала, нават не зважаючы на тое, што на гэты раз яна цягнулася дольш чым звычайна. Між тым, пакуль у Малых Заскоках чакалі сыходу павадку, у краіне запалалі вулканічныя страсьці: была зьмененая дзяржаўная сымболіка, а трохі пазьней - і Канстытуцыя, кануў у лету Вярхоўны Савет... У такі гарачы для краіны час пра 457 жыхароў Малых Заскокаў неяк увогуле забылі. Такім чынам, нічога ня ведаючы пра глябальныя зьмены на Вялікай Зямлі, сяляне саматужна будавалі новае дэмакратычнае жыцьцё...*

***

За сталом пад партрэтам з выявай Прэзыдэнта, які пад бел-чырвона-белым сьцягам прымае прысягу на вернасьць Канстытуцыі'94, сядзеў сур'ёзны чалавек у міліцэйскай форме (гэта быў вясковы ўчастковы). «Ну што, будзем гаварыць ці ў маўчанку гуляцца?» - участковы грозна глянуў на панурых хлопцаў. «Таварыш нача...» - пачаў быў Віктар - і адразу атрымаў па балдзе каваным ботам. Толькі падаючы на падлогу, ён пасьпеў заўважыць, што на кукардзе ў міліцыянта красавалася «Пагоня». «Тамбоўскі воўк табе таварыш! Спадар! Пойдзеце ў мяне на ўсю катушку, сукі краснапузыя!» «За што?» - толькі і здолелі вымавіць хлопцы. «За падробку грошай!» - участковы памахаў перад іхным носам трыма тысячарублёвымі паперкамі, якімі нашы героі колькі хвілінаў таму расплаціліся з тараканіхай. «Як падробныя?» - няўцямна прамармытаў Мірон. «На гэтым баку купюры няма «Пагоні»!» - удакладніў участковы. «Дык, яе і не

павінна тут быць,» - раззлаваўся быў Мірон. - «Гэта ж новы ўзор! Цяпер жа герб - капуста. Ну, як бел-чырвона-белы сьцяг зьмянілі...». Ад гэтых словаў участковы асьцервянеў: «Што ты вярзеш!» - і садануў Мірона па сківіцы. - «Я бачу размова будзе больш сур'ёзнай. Вы абвінавачваецеся ў антыдзяржаўнай дзейнасьці. Згодна дзеючай з 1994-га году Канстытуцыі РБ, вы маеце права не адказваць на пытаньні, патрабаваць адваката і г.д.». «Якой Канстытуцыі? Якога году?» Хлопцы не маглі паверыць пачутаму. Але на гэтыя пытаньні ніхто ўжо не звяртаў увагі.

***

*У хуткім часе саўгас «Заветы Ільіча» быў распушчаны і ператвораны ў акцыянэрнае таварыства «Булак-Балаховіцкім Шляхам». Адначасова былі праведзеныя першыя вольныя выбары ў Ніжэйшую Ізбу Сельскага Сходу, якія праходзіліся паводле партыйных сьпісаў. Трыюмфальную перамогу на іх атрымаў шырокі кааліцыйны блёк «Дэмакратычныя Заскокі». Акрамя «ДЗ» пяціпрацэнтны бар'ер таксама пераадолелі камуністы, аграры, зялёныя, канстытуцыйныя анархісты, хрысьціянскія дэмакраты, палескія аўтанамісты, дашнакі, бандэраўцы і партыя аматараў самагону. Новаабраны заканадаўчы орган адразу прыступіў да актыўнай законатворчай працы і выдаў на-гара шэраг законаў і пастановаў, што забясьпечылі дэмакратычнаму працэсу зялёную вуліцу: была праведзеная радыкальная аграрная рэформа (зямля была падзеленая на валокі), адноўлены інстытут пакараньня плецьмі, і г.д. Кульмінацыйнай корпкай дэмакратызацыі стала забарона дзейнасьці кампартыі і ўтварэньне Адзінай Дэмакратычнай Партыі (Малых Заскокаў)...*

***

Хлопцы і старшыня сядзелі і моўчкі глядзелі на сельскага канстытуцыйнага судзьдзю Ціхана, які адначасова выконваў у Малых Заскоках таксама функцыі фэльчара і судовага мэдыцынскага эксперта. Той старанна вывучаў пратакол допыту Віктара і Мірона. Нарэшце Ціхан выплюнуў бычок і падняў вочы на старшыню: «Нічога асаблівага, тыповы выпадак чарнобыльскай мутацыі на глебе алькагольнага атручаньня. Неяк да нас забраліся былі нейкія этнографы, якіх ваша «Служба Вясковай Бясьпекі» раскусіла як паўночна-карэйскіх дывэрсантаў. Ну тых, якіх яшчэ потым павесілі каля клюбу. Дык вось, той жа параноідальны брэд пра нейкую чырвона-зялёную сымболіку, новую канстытуцыю і інтэграцыю. Ну вы самі, старшыня, падумайце, хіба здаровы чалавек на 8-ым годзе ад набыцьця незалежнасьці будзе несьці лухту пра нейкую там інтэграцыю з Расеяй? Ды яшчэ пры жывым-та нашым Прэзыдэнце?! Над Вамі ж ўвесь райкам АДП(МЗ) сьмяяцца будзе!» «Так,» - старшыня пачухаў «макаравым» у патыліцы. - «Хутчэй за ўсё, апраставалосіўся я трошкі, але што ж мне тады рабіць?» «Як што! Лавіце сапраўдных злачынцаў. Напрыклад, вось гэты настаўнік Лабановіч. Мой малодшы ўчора даклаў, што гэты «географ» распавядаў ім у школе пра тое, што чалавек пайшоў ад малпы. Я упэўнены, ён зьвязаны з камуністычным падпольем. А гэтым малалетнім фальшываманэтчыкам усыпце пляцей па 20». Хлопцы яшчэ доўга ня верылі свайму шчасьцю. Ня верылі, калі беглі зь вёскі з палаючымі задніцамі, ня верылі, калі перабіраліся ўплаў праз Прыпяць, і ня вераць нават цяпер. Прачынаючыся час ад часу сярод ночы, яны жудасна крычаць - «Спадар прабачце! Я ніколі ня буду болей маляваць грошы!» Дзяжурная санітарка дае ім горстку транкаў і да раніцы чытае перадавіцы з «Советской Белоруссии», каб хлопцы зразумелі, што гэта быў толькі сон, жудасны сон.

***

*З дакладной запіскі Старшыні Савету Бясьпекі*
*Зусім сакрэтна*
*Рапарт*
*На аснаваньні паказаньняў пацыентаў псыхіятрычнай лякарні «Навінкі» Мірона К. і Віктара П. быў устаноўлены квадрат мёркаванага знаходжаньня ваенна-спартовага лягеру невядомай нацыяналістычнай групоўкі і распрацаваная апэрацыя па яе ліквідацыі. 26.11.97 сіламі двух мотастралковых батальёнаў, пры дапамозе тарпедных кацяроў і вэрталётаў нацыяналістычны летнік быў блякаваны, а яго ным удзельнікам прапанавана здацца. Аднак невядомыя спартоўцы адмовіліся здавацца й ужылі зброю. У выніку двухдзённых баёў нацыяналістычная групоўка была ліквідаваная. Падчас бою праціўнік прадэманстраваў нябачны фанатызм. Кожную хату, кожны двор прыходзілася браць з боем. Нават раненыя і бяззброеныя нацыяналісты адмаўляліся здавацца, і адважна ішлі ў атаку з крыкам «За вольную Беларусь! Няхай жыве Канстытуцыя 94 -га году і яе верны гарант - Прэзыдэнт Аляксандар Лукашэнка!» Каб пазьбегнуць стратаў у шэрагах асабістага складу, лягер быў заліты напалмам і пасьля прачэсаны мотапяхотай. Палонных і раненых ня выяўлена. Пастаўленую задачу - зьнішчэньне ўзброенага незаконнага фармаваньня - можна лічыць выкананай.*
*Падчас апэрацыі асабліва вызначыўся яфрэйтар Тышкевіч. І., які першым уварваўся ў распалажэньне праціўніка. За свой геройскі ўчынак быў узнагароджаны «Ганаровай граматай за адвагу» і двухдзённай пабыўкай у Менск на Зьезд Няўрадавых Арганізацыяў.*
*Палкоўнік N.*



Абгарэлае фота, знойдзенае на месцы спаленай вёскі. На адвароце падпісана: «Суседцы Дуні ў 5-ую гадавіну Незалежнасьці»

# 10 ПОСЫКОВ В ЗАКОНЕ

*Малява Зени Бруклинского корешам на зону*

## Зеленый прокурор колдырей

Европа надыбала новое мусало в XIX веке. Это было завинчено шухером европейских и тунгуских бугров, смострячиванием кодляков и национальных казенных малин. Это была буча за гулянье колдырей. Национальное самонарисование забомбило стольник посыков исторической филии, лобастой лямки колдырного понту, ссучило мокротную рваную бузу, общаковую разборку.

В 1918 пасыке насаднячилась первая общаковая разборка, перед братвой зарисовалась новая Европа и обновленная сучья ментовка на Востоке. Когда все это подогналось, лихорадка смастрячиванья наций в натуре завершилась. Колдыри, которые не подсуетились залепить глобальные национальные мансы, оклемались в зоне сходнякового имперского режима (переплавленной Кацапии), прокололись как лохи. Они были больше не в законе, авторитетов запрягли, культуру завякали. Отмазать от вышака их могло только раскурочивание кацапской зоны, ее полный карачун. Никакие понты при подогреве имперского ажура, не заказало бы фарт колдырей. Для мостырки наций, ее кайфовой жытухи и конкретного поднятия, желатны не слабые обазикалы.

Первое - масть для колдырей, т.е. колдырное щекоченье и кровняк, общак ходок и канание по одному делу и борзеть на то, чтобы смострячить национальную казенную хату.

Во-второй затер, нужно зашиться на национальной фене - врубленной как лобастый общаковый капиталец и жихтарка.

В третьих, надо тискать национальные малявы на национальной фене. Это бы смострячило национальных жиганов и тумакало фарт братвы через фарт колдырей.

В четвертуху: национальный балаган на колдырной фене. Национальный балаган - это почерк, гляделка и мордогляд, в котором кодла себя знахопырит.

На пятак, должны быть авторитеты (бугры), икристые братве, которые рубят хохму колдырей, шевелят рогом на их наварку, и которым не в падлу в натуре отвечать за базар перед кодлой.

В шестую, самый важняк: вольная казенная национальная хата как конкретное мастряченье национальной мансы.

До шабаша первой общаковой разборки бульбашский кодляк, как и другие восточно-европейские тунгусы отрубил срок за самозарисовку и смостырил все обазикалы лафовой житухи. В 1918 году нарисовался Бульбашский Колдырный Общак. В этом же году возбухли борзые Хохлы, Лабусы, Хачики, Чехи, Пшеки и жлобы. Лихорадка кодляковой самозарисовки и мастрячения национальных мансов в тунгусских малинах была загиберена на самом центровом этапе - когда лепили казенную хату. Заварился сходняково-кацапский беспредел. Чтобы въехать в злобарный почерк кацапского шмона и мочилова в зашухаренных малинах, хватит прикинуть на мансовый прикид нации и потолок национального догона братвы в 1989 (времени мастрячения Колдырных Свор) у Лабусов с одной стороны и у Бульбашей и Хохлов с другой. В 1918 пасыке игра под очко была одинаковая, а Бульбаши и Хохлы сидели в козырях. Кто по каким срокам пошел - последний фраер знает. (1988 - у Лабусов: «Лабусы без борзости - лабусы без фарту!». 1988 пасык у Бульбашей: "На кой нам по этой фене ботать!») Лабусам за 22 года гулянья подфартило смастрячить кодлу борзых малолеток, которых не покоцала два четвертака сходнякового режима. Бульбашам, еще не оперившимся и попавшим в кацапский цугундер, такого фарта не подкатило и круто обломилось. Дзысь промеж рог был кошмарным, на выходе - хана.

***(Захаваны правапіс арыгіналу)***

# 10 ГАДОЎ ЗМАГАНЬНЯ

*Ліст Зянона Пазьняка да Беларускага Народу*

## Вясна народаў

Эўропа пачала набываць сваё новае аблічча ў XIX стагодзьдзі. Яно зьвязана з распадам эўрапейскіх і эўраазіяцкіх імпэрыяў, з утварэньнем нацыяў і нацыянальных дзяржаваў. Гэта было змаганьне за свабоду народаў. Нацыянальнае самавызначэньне запатрабавала сто гадоў гістарычнага часу, велізарнага напружаньня чалавечага духу, выклікала крывавыя канфлікты і паўстаньні, сусьветную вайну.

У 1918 г. скончылася 1-я Сусьветная вайна. Перад сьветам паўстала абноўленая Эўропа і абноўленая камуністычная імпэрыя на Усходзе. Да гэтага часу працэс утварэньня нацыяў ужо завяршыўся. Народы, якія не пасьпелі закончыць сыстэмнае нацыянальнае будаўніцтва, апынуліся ў зоне савецкай імпэрыі (перайначанай Расеі), трапілі у надвычай цяжкое становішча. Іхняе нацыянальнае разьвіцьцё было прымусова спыненае і мэтадычна крок за крокам зьнішчаліся асновы нацыянальна-культурнага і фізычнага існаваньня. Уратаваць іх ад поўнага зьнішчэньня магло толькі разбурэньне расейскай імпэрыі, яе безумоўны распад. Ніякая зьмена ідэалёгіі пры захаваньні імпэрскага арганізму не вырашала б лёсу народаў. Для стварэньня нацыі, яе нармальнага існаваньня і пэрспэктыўнага разьвіцьця патрэбна наяўнасьць неабходных крытэрыяў.

Перш за ўсё трэба, каб была нацыянальная ідэя - гэта значыць адчуваньне нацыянальна-культурнага і тэрытарыяльнага адзінства, агульнасьці лёсаў нацыянальнага існаваньня, салідарнасьці і імкненьня да стварэньня дзяржавы.

Па-другое, патрэбна нацыянальная мова, усьвядомленая як найвялікшая агульна-народная каштоўнасьць культуры і жыцьця духа.

Трэцяе, трэба каб была нацыянальная літаратура ў нацыянальнай мове, якая б стварала нацыянальныя вобразы і асэнсавала б лёс народу праз лёсы людзей.

Чацьвертае, трэба каб быў нацыянальны тэатар у нацыянальнай мове. Нацыянальны тэатр - гэта ёсьць вобраз, адбітак нацыі, люстэрка, у якім нацыя бачыць сябе.

Пятае, павінны быць людзі (эліта), вядомыя ўсім, якія ўсьведамляюць нацыянальныя інтарэсы, дзейнічаюць, зыходзячы з гэтых інтарэсаў, і здольныя ўзяць на сябе адказнасьць за лёс нацыі.

Шостае - выніковае і найважнейшае - гэта незалежная нацыянальная дзяржава як структурная рэалізацыя на-цыянальнай ідэі. Да канца 1-й Сусьветнай вайны беларускі народ, як і іншыя ўсходнеэўрапейскія народы, прайшоў шлях нацыянальнага самавызначэньня і стварыў усе, пералічаныя вышэй, умовы для нармальнай пэрспэктывы нацыі. У 1918 годзе была ўтворана незалежная Беларуская Народная Рэспубліка. У гэтым жа годзе ўтварылася незалежная Украіна, незалежныя дзяржавы Балтыі і Каўказу, Чэхаславаччына, Польшча і інш. Працэс нацыянальнай самаідэнтыфікацыі і рэалізацыі нацыянальнай ідэі ў краінах Усходняе Эўропы быў гвалтоўна прыпынены на самым важным і адказным этапе - дзяржаўным будаўніцтве. Пачалася бальшавіцка-расейская акупацыя. Каб убачыць які разбуральны адбітак наклалі акупацыя і генацыд на захопленыя краіны, дастаткова параўнаць ідэйны стан грамадзтва і ўзровень нацыянальнага ўсьведамленьня яго людзей у 1989 г. (часу стварэньня народных франтоў) у Эстоніі, Латвіі, Літве з адна-го боку і Беларусі, Украіне з другога. У 1918 г. стан быў аднолькавы, а ў Беларусі і Украіны да таго ж значна больш патэнцыяльны і пэрспэктыўны. Што потым сталася - вядома. (1988 годуЛатвіі: «Латвія без сувэрэнітэту - Латвія бяз будучыні». 1988 год у Беларусі: «Зачэм этат беларускій язык?»). Балтыйскія краіны за 22 гады свабоднага існаваньня рэалізавалі шанец дзяржаўнасьці і вырасьцілі новае свабоднае нацыянальнае пакаленьне людзей, якіх не зламала потым паўвекавая савецкая акупацыйная палітыка. Беларусь жа, яшчэ ня стаўшы на ногі і апынуўшыся ў расейскім заборы, такой магчы-масьці ня мела і панесла велізарныя страты. Удар быў д'ябальскі, вынік - катастрафічны.

**Новыя ўмовы барацьбы патрабуюць і новых формаў канспірацыі, а ад барацьбітоў – асаблівай кемлівасьці. Прапануем сакрэтную шыфроўку Зянона Пазьняка і яе дэшыфраваны варыянт, апублікаваны ў газэце БМ.**




Абсалютна незалежная газэта "НАВІНКІ" Заснавальнік Павал Каларадзкі; галоўны рэдактар гер Нямчук; пры творчай падтрымцы менскага контар-культурнага бомонду. За недакладнасьць пададзеных матэрыялаў рэдакцыя адказнасьці не нясе. Тыраж 299 экз. На правах рукапісу.